# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET


## ЦІ ПЕРАЖЫВУЦЬ СТУДЭНТЫ



НОВУЮ ПЛАТУ ЗА НАВУЧАННЕ

СТАР. 4-5

## РОВАРНАЕ ШЧАСЦЕ

НЯЎХІЛЬНА ІДЗЕ Ў БЕЛАРУСЬ



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 01.08.13-07.08.13 г.

# УСЯВЕД У АКВАПАРКУ

Аляксандр Лукашэнка лічыць сябе экспертам ва ўсіх галінах: ад рэлігіі да медыцыны.

### "КУПАЛЛЮ" – ЧЫРВОНАЕ СВЯТЛО!

Днямі кіраўнік Беларусі наведаў аквапарк, што будуецца ў Мінску. Агледзеўшыся па баках, Лукашэнка раскрытыкаваў якасць аздаблення будынка. Назва "Купалле", якую прапанавалі гарадскія ўлады, таксама не спадабалася першай асобе краіны.

Будаўнікам апошнім часам рэгулярна перападае на арэхі ад Лукашэнкі. Гэтым разам кіраўнік дзяржавы паабяцаў прымяніць да галіны карныя захады, бо "строительная отрасль у нас не просто хронически больна – у нас такая отрасль, какой она вообще не должна быть в нашем обществе и стране".

Адразу паўстае пытанне: чаму такое становішча склалася на 20-м гаду кіравання Лукашэнкі? Пэўна, цяжкая спадчына царызму або нацыяналістаў. Але вось-вось Лукашэнка бязлітасна абрынецца на будаўнікоў: "Мы пройдемся тут гусеницами самого тяжелого танка, начиная от чиновников УКСов, через проектировщиков и строителей. Мы выровняем это место так, что народ к нам претензий иметь не будет". Чакаем яшчэ дваццаць год?

> Высветлілася, што кіраўнік Беларусі ведае, як рэфармаваць не толькі будаўнічую галіну, але і праваслаўную царкву.



*Жыццё паварочваецца часам вельмі парадаксальна*

Ад будаўнікоў Аляксандр Лукашэнка перакінуўся на Эдварда Сноўдэна, які зараз выкрывае амерыканскія спецслужбы, седзячы ў маскоўскім аэрапорце. "Я бы на месте россиян особо в этом плане не напрягался, а предоставил бы ему политическое убежище", – заявіў кіраўнік Беларусі. Адначасова ён назваў Сноўдэна здраднікам і, спаслаўшыся на агучаную ўцекачом інфармацыю, зрабіў выснову, што "никаких прав человека там (у ЗША. – **Рэд.**) нет".

### ЯК НАМ РЭАРГАНІЗАВАЦЬ ХРЫСЦІЯНСТВА

Закрануўшы гэтую тэму, Лукашэнка паведаміў, што нядаўна быў затрыманы супрацоўнік беларускіх спецслужбаў, які меў сувязь з замежнымі дзяржавамі праз прадстаўнікоў каталіцкай царквы. Як высветліла "Наша ніва", нейкі час таму КДБ арыштаваў ксяндза Уладзіслава Лазара.

Спяшацца з высновамі не трэба, бо зусім нядаўна адна шпіёнская справа развалілася нават у лукашэнкаўскім судзе. Аператара наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода Андрэя Гайдукова таксама абвінавачвалі ў здрадзе Радзіме, але скончылася ўсё пшыкам. У выніку Андрэю інкрымінавалі не ўласна злачынства, а толькі намер яго здзейсніць, і асудзілі на 1,5 года, каб не паставіць КДБ у няёмкае становішча.

Таксама Лукашэнка агучыў сваё меркаванне наконт перспектыў хрысціянства. Высветлілася, што кіраўнік Беларусі ведае, як рэфармаваць не толькі будаўнічую галіну, але і праваслаўную царкву. Па-першае, не трэба ўзводзіць вялізныя храмы. Па-другое, неабходна скараціць час малебнаў ды пропаведзяў. Па-трэцяе, варта пераходзіць ад стараславянскай мовы да сучаснай.

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## РАЗВАЛ БКК – ГЭТА СУР'ЁЗНА

Спыненне «Уралкаліем» паставак праз «Беларускую калійную кампанію» (БКК) абрынула акцыі сусветных вытворцаў угнаенняў.

Цэны на сусветным рынку калійных угнаенняў да гэтага часу кантралявалі два трэйдары – БКК («Уралкалій» і «Беларуськалій») і Canpotex (Potash Corp, Agrium, Mosaic). У аўторак «Уралкалій» абвясціў, што цяпер будзе экспартаваць прадукцыю сам, а прагназаванае ў сувязі з гэтым рэзкае падзенне цэн кампенсуе ростам аб'ёмаў.

«Гэта нібы калі б Саудаўская Аравія выйшла з АПЕК. Для калійнага сектара гэта каласальна», – сказаў у газеце бізнэс-колаў Financial Times аналітык кампаніі Bernstein Джэрэмі Рэдэніус.

Такую ж аналогію праводзіць кіраўніца кампаніі Brompton Group Лаўра Ло. «Ашаламляльная навіна. Як быццам Саудаўская Аравія выбыла з АПЕК», – піша газета «Уол-стрыт джорнал».

Пяць гадоў таму, перад сусветным фінансавым крызісам, калійныя ўгнаенні каштавалі амаль $900 за тону. Цяпер цэны ўпалі да $400, кіраўніцтва «Уралкалія» чакае падзення ніжэй за $300 у бліжэйшым часе.

На «Беларуськаліі» таксама чакаюць вялікіх стратаў.

Аднак як у рэальнасці павядзе сябе «Уралкалій», пакуль цяжка прадказаць.

# ЦІ ТРЭБА НАМ РЭФАРМАВАЦЬ ЦАРКВУ?

Нядаўна Аляксандр Лукашэнка заявіў, што праваслаўная царква мае патрэбу ў рэфармаванні. Эксперты “Тут і цяпер” разважаюць, ці сапраўды саспела такая патрэба.



**СВЯТАР АЛЯКСАНДР, КЛІРЫК СВЯТА-МІХАЙЛАСКАГА ПРЫХОДУ МІНСКА:**

## “ШМАТ ХТО РАЗУМЕЕ НЕАБХОДНАСЦЬ ЗМЕН”

– Тут ёсць далікатны момант. Калі б прэзідэнт Лукашэнка выступаў як міранін, то меў бы права так лічыць. Але калі ён выступае як кіраўнік дзяржавы, дзе яго слова ўспрымаецца як закон, то гэта ўжо выклікае непакой. Але я, насамрэч, таксама лічу, што рэфармацыя царквы патрэбна. Я падзяляю меркаванне Лукашэнкі, што не патрэбны нам вялікія храмы. Патрэбны храмы памерам для адной абшчыны людзей, якія ведаюць адно аднаго, жывуць як адна сям’я. Стаяць у царкве – не агульнаправаслаўная практыка. У Грэцыі і ў іншых краінах праваслаўнага свету ў цэрквах ёсць крэслы, людзі сядзяць на працягу службы і падымаюцца толькі ў пэўныя моманты. Нават у тэкстах багаслужэнняў ёсць месцы, якія называюцца “сядальнымі” (значыць, падчас іх зачытвання можна сядзець). Таму тут няма ніякай рэфармацыі. Трэба рабіць, як ва ўсім свеце. Тое, што службы ў нас больш адпавядаюць няспешнаму сярэднявеччу, вядома, многія людзі не ўспрымаюць. Самае галоўнае, што не ўспрымаюць мову. Але царква сама па сабе вельмі кансерватыўны інстытут. Шмат хто разумее неабходнасць змен, але гэта не так проста. Многім людзям рэформы не патрэбны, бо яны прыходзяць у царкву не дзеля веры: яны не чытаюць Евангелле, іх не хвалюе сутнасць хрысціянства, ім патрэбен толькі рытуал. Ім служба патрэбна менавіта ў такім выглядзе.

**АД ПЕРШАЙ АСОБЫ**

*«Дзякуй Богу, што наша царква не хварэе на тую заразу, што царква на Захадзе. Пра гэта ўсе чулі: педафілія, «блакітныя», «ружовыя», «зялёныя»… Чорт ведае, што там робіцца!»*, – сказаў кіраўнік дзяржавы. – *Але хварэць мы ўжо пачынаем, і, думаю, тут праваслаўная царква з дзяржавай недапрацоўваюць. Мы можам страціць цэлае пакаленне моладзі. Дарэчы, пра гэта кажа і Папа Францішак»*.

Лукашэнка падкрэсліў, што з’яўляецца прыхільнікам таго, «каб наша царква паступова рэфармавалася пачынаючы з царкоўнай мовы».

*«Доўгія малебны, службы, пропаведзі… А дарослае пакаленне, бабулькі проста не вытрымліваюць гэтага»*, – заўважыў ён.

На думку прэзідэнта, «трэба быць больш кароткімі, кампактнымі, больш сучаснымі».

*«Я супраць таго, каб людзі прыходзілі і дзве-тры гадзіны слухалі малебен, не маючы магчымасці прысесці»*, – сказаў Лукашэнка.

Акрамя таго, ён з’яўляецца праціўнікам таго, каб царква будавала «велізарныя храмы». *«Храмы павінны быць утульнымі, для душы; не трэба цісн уць на чалавека»*, – заўважыў ён.

**ПАВОДЛЕ БЕЛТА**

**ВАЛЕРЫЯ ЧАРНАМОРЦАВА, ПРАВАСЛАЎНАЯ ВЕРНІЦА:**

## “РЭФОРМЫ МОГУЦЬ АЖЫЦЦЯВІЦЬ ТОЛЬКІ ТЫЯ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ ПА ВЕРЫ”

– Рэформа ў царкве не робіцца па нейкіх палітычных загадах. Рэформы павінны выспяваць. Царква ёсць цела Хрыстовае. Гэта не дзяржаўная і нават не грамадская арганізацыя, таму ісці з такімі прапановамі зверху ці збоку немагчыма. Царкве найперш патрэбна катэхізацыя – навучанне вернікаў жыццю па веры, уласна кажучы, па сапраўднай праваслаўнай веры. Кожны сур’ёзны вернік так ці інакш вучыцца. Хрысціян спачатку называлі вучнямі Хрыстовымі. Навучаныя людзі змогуць супольна рэфармаваць ці, разумеючы сапраўдную традыцыю, адрозніваючы яе ад нейкіх няважных рэчаў, паступова штосьці рэфармаваць… Тое, што службы зацягнуты, што яны вядуцца на царкоўнаславянскай мове, безумоўна, праблема. Але, дзякуй Богу, у нас ёсць пераклад на беларускую мову. Шкада, што ён не надта якасны. Але, прабачце, у Расіі няма афіцыйнага дабраславення на літургію на рускай мове. У Беларусі сітуацыя лепшая. Калі будзе навучанне асновам веры і жыццю па веры, то рэформы самі адбудуцца.

*Заканчэнне на стар. 8*

# УСЯВЕД У АКВАПАРКУ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1*

## НЕВЫКАНАЛЬНАЯ РЭКАМЕНДАЦЫЯ

Канечне, такое глыбокае разуменне царкоўнай рэформы здольнае прынцыпова змяніць сітуацыю. Пытанне паўстае толькі адно: што рабіць, калі ў выніку гэтых пераўтварэнняў праваслаўная царква стане самай папулярнай у свеце? Ці гатова яна да планетарнага лідарства? Хаця ў такім выпадку можна будзе звярнуцца па параду да Лукашэнкі, і ён патлумачыць, што рабіць далей.

Кіраўнік Беларусі выглядае сапраўдным Усяведам. Вось і пра тое, як змагацца з афрыканскай чумой свінняў, ён таксама распавёў у аквапарку. Маўляў, узбуджальнік АЧС гіне пры тэмпературы 60 градусаў, таму "если не дай Бог где-то что-то просочилось, то 60 градусов – вы под душ становитесь (вода порой более горячая), и вирус погибает".

Праблема толькі ў тым, што гэтая рэкамендацыя невыканальная. Чалавек, які 5 секунд знаходзіцца ў такой гарачай вадзе, атрымае не збаўленне ад вірусу, а апёкі. Абсалютная большасць, праўда, з-пад шасцідзесяціградуснага душу выскачыць праз секунду, бо не вытрывае такой тэмпературы. Таму лекары проста рагочуць, калі чуюць пра прэзідэнцкі спосаб лячэння чумы.

Што, калі кампетэнтнасць Лукашэнкі ў іншых галінах такая ж самая, як у медыцыне?..

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# РАЗВОД "УРАЛКАЛІЯ" І БКК

**Буйны вытворца калію ААТ «Уралкалій» спыніў экспартны продаж праз Беларускую калійную кампанію, зрабіўшы адзіным экспарцёрам сваёй прадукцыі «Уралкалій-трэйдзінг».**

Генеральны дырэктар кампаніі Уладзіслаў Баўмгертнер заявіў, што «наша супрацоўніцтва з беларускімі партнёрамі ў рамках БКК зайшло ў тупік». Згодна з пазіцыяй «Уралкалія», экспартны продаж абодвух вытворцаў павінен быў ажыццяўляцца праз адзіную тавараправодную сетку, але гэты прынцып парушыўся з падпісаннем 12 снежня 2012 года Указу прэзідэнта Беларусі аб адмене выключнага права БКК на экспартныя пастаўкі беларускага калію. Фактычныя адгрузкі «Беларуськалія» пачалі ажыццяўляцца па-за межамі БКК, што на «Уралкаліі» лічаць «разбурэннем асноваў шматгадовага плённага супрацоўніцтва».

> **ААТ «Уралкалій» пакуль не прымаў рашэння аб выхадзе са складу акцыянераў, але гэтае пытанне можа быць разгледжана на бліжэйшым пасяджэнні назіральнага савета трэйдэрскай кампаніі.**

## «ПАКУЛЬ ТОЎСТЫ ЗАСОХНЕ, ХУДЫ ПАДОХНЕ»

Па словах беларускага эканаміста **Міхаіла Залескага**, беларускі і расійскі партнёры не сышліся ў стратэгіях продажу, і Указ прэзідэнта стаў інстытуцыянальным афармленнем тых аб'ектыўных працэсаў, якія існуюць на рынку.

– У рускіх праводзіцца стратэгія пашырэння рынку пры часовым скарачэнні цаны. Нам нашы ўмовы не дазваляюць гэтым займацца, таму што пакуль тоўсты засохне, худы падохне. Нам трэба прадаваць па высокіх цэнах і атрымліваць адразу валюту, – сказаў эксперт у каментары карэспандэнту **«Тут і цяпер»**.




*Сімвал новай Расіі?*

Па словах Залескага, гэтая пертурбацыя – не вельмі добрая рэч і для «Уралкалія», акцыі якога патаннелі ўжо на 24,3%, і для «Беларуськалія».

– Акцыі рэзка патаннелі. Тое самае будзе і ў нас. Эфектыўнасць прадпрыемства часова пагоршыцца. Я падкрэсліваю: тое, што для рускіх лёгкая праступа, для нас – запаленне лёгкіх. У нас няма такога аб'ёму рэзерваў і такога прастору для манеўра, які ёсць у рускіх, – рэзюмуе эканаміст.

## РАСПЛОЧВАЦЦА БУДУЦЬ УСЕ БЕЛАРУСЫ

Адмова «Уралкалія» ад экспартнага продажу праз БКК адаб'ецца на цэнах на калійныя ўгнаенні, а значыць, і на прыбытках «Беларуськалія», угнаенні якога і прадае БКК, лічыць старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) Аляксандр Ярашук.

– «Беларуськалій» – адно з галоўных прадпрыемстваў краіны, якое забяспечвае валютныя паступленні ў бюджэт. Калі памяняецца кан'юнктура цэн на калійныя ўгнаенні – а хутчэй за ўсё цэны ўпадуць – з гэтай нагоды можна непакоіцца. Становішча эканомікі і так вельмі няпростае, і апошнія падзеі будуць спрыяць его пагаршэнню, – адзначае прафсаюзны лідар.

Ці не паўплывае гэта на заробкі шахцёраў «Беларуськалія»? На думку Ярашука, гэта малаверагодна. ААТ «Беларуськалій» – прадпрыемства стратэгічнае, і беларуская ўлада пільна сочыць за тым, каб там не фарміравалася нейкае сацыяльнае напружанне.

– Расплачвацца будуць не столькі працаўнікі «Беларуськалія», колькі эканоміка ўсёй краіны. Гэта значыць, усе беларусы, асабліва занятыя ў бюджэтнай сферы, – лічыць Ярашук. – Дадзеная акалічнасць не можа не трывожыць.

## «УРАЛКАЛІЙ» МОЖА ВЫЙСЦІ СА СКЛАДУ БКК

«Уралкалій» не толькі ажыццяўляе продажы праз БКК, але і з'яўляецца акцыянерам беларускай кампаніі. Праўда, пра магчымы выхад са складу акцыянераў у афіцыйнай заяве не вялося.

Агенцтва «Інтэрфакс-Захад» паведамляе са спасылкай на крыніцу ў органах дзяржкіравання, што ААТ «Уралкалій» пакуль не прымаў рашэння аб выхадзе са складу акцыянераў, але гэтае пытанне можа быць разгледжана на бліжэйшым пасяджэнні назіральнага савета трэйдэрскай кампаніі.

– Назіральны савет БКК можа быць скліканы ў бліжэйшы час, зараз новы кіраўнік кампаніі ў замежнай камандзіроўцы. Не выключана, што на пасяджэнні назсавета пытанне аб членстве «Уралкалія» можа быць разгледжана», – сказаў суразмоўца агенцтва.

Напомнім, гендырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баумгертнер, каментуючы рашэнне савета дырэктароў кампаніі, падкрэсліў, што расійскі бок застаецца «адкрытым да магчымага ўзаемадзеяння на ўзаемавыгаднай аснове ў будучыні».

**ВЕРА БУЛГАЧ**

# ЖКГ: ШКЛОЎСКІ ПРАКЛЁН

Кіраўнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі Шклоўскага райвыканкама на сваёй пасадзе доўга не затрымліваюцца: крыху папрацуюць і трапляюць пад крымінальную справу...



Вечныя праблемы нашай ЖКГ

## ЗЛАЧЫННАЯ ГРУПОЎКА

Восем гадоў таму адразу некалькі кіраўнікоў жыллёва-камунальнай гаспадаркі Шклоўскага райвыканкама атрымалі ад чатырох да сямі гадоў пазбаўлення волі. Суд прызнаў, што гэтыя людзі злоўжывалі службовым становішчам і нарошчвалі свой асабісты капітал шляхам крадзяжу дзяржаўнай маёмасці.

**Яны набывалі абсталяванне па цэнах, якія значна перавышалі яго рэальны кошт; розніцу клалі сабе ў кішэню...**

Як паведамлялі тады сродкі масавай інфармацыі, дырэктар Шклоўскай ЖКГ Аляксандр Алейнічаў атрымаў сем гадоў пазбаўлення волі, галоўны інжынер Мікалаў Федарышкін – чатыры, галоўны бухгалтар Алена Цодава – пяць, майстар Лалаеў – шэсць. Суд прызнаў, што яны дзейнічалі супольна і пад дахам райвыканкама стварылі арганізаваную злачынную групоўку.

*“Яны набывалі абсталяванне па цэнах, якія значна перавышалі яго рэальны кошт; розніцу клалі сабе ў кішэню,* – пісалі пра гэтую справу ў газетах. – *“Умельцы” падраблялі дакументы на абсталяванне, налічвалі так званым мёртвым душам вялікія заробкі, якія потым прысвойвалі”.*

## СЛЯДЫ КАСТУСЁВА

Варта адзначыць, што Аляксандр Алейнічаў змяніў у крэсле дырэктара Шклоўскай ЖКГ Рыгора Кастусёва.

Сёння намеснік старшыні Партыі БНФ распавядае, што на яго таксама шукалі кампрамат і нават запрашалі на размовы ў міліцыю, але “прыцыц” аказалася няма чаго.

*“На мяне збіралі кампрамат,* – узгадвае Кастусёў. – *У 2004 годзе мяне запрасілі ў абласное ўпраўленне міліцыі. Дарэчы, дагэтуль сорамна, што пайшоў туды без позвы. Мне амаль адразу далі пачытаць адмысловую тэчку з дакументамі, якія нібыта сведчылі супраць мяне. Аднак на першых жа лістах я заўважыў, што подпісы на паперах былі не мае, і, калі зрабіў заўвагу, тэчку забралі і пачалася размова пра справы, без пратакола. Мяне адпусцілі, бо не было чаго прад'явіць”.*

**Варта адзначыць, што сышоў Кастусёў не таму, што баяўся трапіць у турму. Ён проста не вытрымаў ціску.**

Варта адзначыць, што сышоў Кастусёў не таму, што баяўся трапіць у турму. Ён проста не вытрымаў ціску.

*“Дырэктар ЖКГ Шклоўскага райвыканкама на той момант быў сябрам Сойма БНФ, старшынёй Шклоўскай арганізацыі БНФ і, зразумела, актыўна ўдзельнічаў у прэзідэнцкай кампаніі. Потым ён шчыра прызнаўся, што не вытрымаў выкліканага шматлікімі праверкамі псіхалагічнага ціску і пакінуў сваю пасаду”*, – паведамляла ў 2005 годзе падрабязнасці справы газета “Народная Воля”.

## АДЗІН ЗА АДНЫМ…

Рыгор Кастусёў і сёння падтрымлівае зносіны са сваімі былымі калегамі. І збоку назірае за тым, што адбываецца там, дзе ён калісьці працаваў.

*“Пасля мяне ўлады паставілі на гэтую пасаду свайго стаўленіка,* – распавядае Рыгор Андрэевіч. – *Ён за два гады наварацiў такіх спраў, што яго знялі з пасады, потым арыштавалі і затрымалі яшчэ некалькі чалавек.*

*На месца Алейнічава прызначылі новага кіраўніка – былога міліцыянера. Той адпрацаваў прыкладна год і за гэты час таксама ўмудрыўся зрабіць так, што і яго пасадзілі.*

*Потым знайшлі трэцяга кіраўніка. Аднак і ў яго атрымалася ўсё не слава Богу – яго таксама знялі з пасады. Праўда, да турмы не дайшло.*

*Цяпер ёсць крымінальная справа на чацвёртага кіраўніка – дырэктара УКП «Жылкамгас» Рыгора Ігнатовіча…*

*Інфармацыі аб тым, у чым канкрэтна абвінавачваюць апошняга кіраўніка, у мяне няма. Ці быў суд, таксама невядома.*

*Але ведаю, што пэўны час гэты чыноўнік знаходзіўся ў следчым ізалятары, потым яму змянілі меру стрымання – людзі бачылі яго ў горадзе і нават здзівіліся. Пачаліся размовы аб тым, што, маўляў, адзін больш-менш вядомы чыноўнік, які займаў розныя высокія пасады, даводзіцца яму сваяком, але “ні пацвердзіць, ні абвергнуць гэтую інфармацыю не магу, бо дакладна не ведаю”.*

З выразу “праклятая пасада” Рыгор Кастусёў смяецца: “Чорнай магіяй не валодаю!”

**АФІЦЫЙНА**

**Як аказалася, Следчы камітэт яшчэ ў лютым бягучага года перадаў крымінальную справу ў дачыненні да гэтага самага, чацвёртага дырэктара шклоўскага УКП “Жылкамгас” у пракуратуру для накіравання ў суд.**

**– Чалавек, аб якім ідзе гаворка, выкраў гідраманіпулятар на суму 14 мільёнаў і здзейсніў службовую падробку – склаў пратакол аб пасяджэнні камісіі па правядзенні амартызацыі, – распавялі ў Следчым камітэце. – Гэтым пратаколам ён хацеў скінуць кошт гідраманіпулятара, таму што, груба кажучы, калі б яго цана была 14 мільёнаў, то гэта кваліфікуецца як крадзеж у асабліва буйным памеры, а 10 мільёнаў – ужо буйны памер, адпаведна, зусім іншае пакаранне. Але ў ходзе расследавання справы (а расследаванне пачалося яшчэ ў 2011 годзе) ён кампенсаваў шкоду і падаў прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта. Рашэння аб памілаванні пакуль няма. Суда па гэтай справе таксама пакуль яшчэ не было. Мера стрымання абвінавачанаму была зменена – ён ужо не знаходзіцца пад вартай.**

ДАРЭЧЫ

## “ТЫЯ, ХТО АДСЯДЗЕЎ, ЗНОЎ ПРЭТЭНДУЮЦЬ НА ПАСАДУ КІРАЎНІКОЎ!”

Прыкладна год назад Рыгор Кастусёў накіраваў адкрыты ліст свайму земляку Аляксандру Лукашэнку. Пісаў якраз пра карупцыю на Шклоўшчыне і пра сваіх зменшчыкаў на пасадзе дырэктара мясцовай ЖКГ.

*“Я напісаў Аляксандру Лукашэнку адкрыты ліст (быў апублікаваны ў газеце “Магілёўскі выбар” і змешчаны на інтэрнэт-сайце Naviny.*

**За гэты час на пасадзе кіраўніка Шклоўскага ЖКГ працавалі чатыры чалавекі, усе яны былі звольнены па прычыне злоўжывання службовым становішчам.**

*by), дзе распавёў аб негатыўных з'явах, якія адбываюцца ў Шклоўскім раёне*, - цытаваў Кастусёва сайт незарэгістраванага праваабарончага цэнтра"Вясна" . – *Такое ўражанне, што Шклоўшчыну ахапіла нейкая хваля карупцыйных злачынстваў! Прывяду толькі адзін прыклад. З часу майго звальнення па палітычных матывах з пасады дырэктара Шклоўскага раённага ЖКГ мінула пятнаццаць гадоў. За гэты час на пасадзе кіраўніка Шклоўскага ЖКГ працавалі чатыры чалавекі, усе яны былі звольнены па прычыне злоўжывання службовым становішчам. Двое з іх ужо адсядзелі канкрэтныя турэмныя тэрміны, апошні дырэктар з гэтых чатырох зараз знаходзіцца пад следствам, узбуджана крымінальная справа. І самае цікавае: тыя, хто адсядзеў, зноў прэтэндуюць на пасаду кіраўнікоў! Проста нейкі рассаднік карупцыі атрымліваецца. Пра якую працу па падборы кіруючых кадраў у Шклоўскім раёне можна весці размову?".*

Мы пацікавіліся, ці атрымаў палітык нейкі адказ ці хаця б адпіску на сваё пасланне.

“Не!” – разводзіць рукамі Рыгор Андрэевіч.

**МАРЫНА МІТ**

# «МАКСИМАЛЬНО ОТЖАТЬ ДЕНЬГИ У НАСЕЛЕНИЯ»

Банковские новости продолжают удивлять белорусов: с одной стороны, уверенно растет курс доллара, с другой – резко пошли вверх проценты по депозитам в белорусских рублях. Как белорусам поступить со своими сбережениями, чтобы не прогадать, и ожидать ли финансовой стабильности в ближайшие месяцы?

Курс доллара 10 июля 2013 года достиг исторического максимума – Br8880. Этот рекорд доллар повторил на торгах 30 июля и, похоже, не собирается останавливаться на достигнутом. Но на фоне укрепления доллара белорусские банки «соблазняют» вкладами в национальной валюте. Например, банк БелВЭБ предлагает фиксированную ставку в 36% по вкладу на 3 месяца. БТА-банк сулит 35% за вклад в белорусских рублях на тот же срок. В Белинвестбанке – 35%, но по полугодовому депозиту.

## БАНКАМ НЕ ХВАТАЕТ ДЕНЕГ

Финансовый аналитик Сергей Чалый отмечает: в банковской сфере сложилась ситуация, аналогичная той, что была в сентябре – октябре 2012 года. Как и тогда, страна переживает кризис рублевой ликвидности. Коммерческим банкам – особенно банкам средней руки, которые занимаются в основном потребительским кредитованием, – просто не хватает денег.

– В прошлом году точно так же ставки на межбанке взлетели до 60 с небольшим процентов, точно так же Нацбанк потом героическими усилиями пытался их сбивать, – напоминает Сергей Чалый. – И тут, и там спусковым крючком послужила небольшая валютная паника, которая вызвала отток рублевых вкладов и конвертацию их в валюту.

По словам менеджера одного из столичных банков, Нацбанк усиленно забирает с рынков белорусскую рублевую массу, чтобы не было давления на курс.

– Экспортная выручка у нас упала по сравнению с прошлым годом. Нет притока валюты в страну, а есть большие выплаты по внешним заимствованиям. Чтобы снять ажиотажный спрос, Нацбанк полностью забирает рублевую ликвидность. И если какой-то из банков хочет взять кредит, ему это обходится очень дорого, – говорит сотрудник банка.

Нацбанк, возможно, не возражал бы против ослабления рубля, но это всегда приводит к «серьезным кризисным явлениям, которые потом приходится тушить в пожарном режиме», замечает Чалый. Поэтому в ближайшие несколько месяцев курс рубля будут сдерживать всеми возможными средствами.



*Насельніцтва зноў збіраецца змагацца за валюту*

## ВКЛАДЫ В РУБЛЯХ ВЫГОДНЫ, НО НА КОРОТКИЙ СРОК

– Прошлой осенью болтанка с кризисом ликвидности сохранялась месяца два. Думаю, сейчас это продлится столько же или чуть меньше, – говорит эксперт. – Соответственно, на эти несколько месяцев есть возможность воспользоваться высокими ставками. Банки, правда, стали умнее: уже не предлагают на длительные сроки такие процентные ставки. По окончании трех месяцев происходит автоматическое переоформление вкладов под гораздо меньший процент.

Источник «Тут і цяпер» в одном из столичных банков соглашается: депозиты в белорусских рублях сейчас привлекательны, но на короткие сроки – до 3-х месяцев.

Резкой девальвации до конца года в Беларуси не будет, уверен сотрудник банка. «Не потянем».

– Правда, переводить валютные вклады в рубли в надежде заработать не стоит. То, что лежит в валюте, пусть лежит, – замечает специалист.

Сергей Чалый с ним не согласен. По его мнению, сейчас было бы разумно снять валюту, чтобы положить на депозит в белорусских рублях.

При этом эксперты сходятся во мнении, что до конца года доллар не достигнет отметки Br9500.

– До 9 тысяч до конца года однозначно спланирует, может быть, до 9300, – предполагает банковский источник.

## ВМЕСТО ЗАРПЛАТ ВЫРАСТУТ ЦЕНЫ

А вот сдерживать рост доходов населения власти будут обязательно.

– Политика будет такая: максимально отжать, – уверен сотрудник банка. – Ладутько же недавно заявил, что повышать зарплаты нет смысла. Сейчас у народа будут вытягивать деньги.

Одновременно со сдерживанием доходов произойдет и значительное повышение цен – на ЖКХ, транспорт, водку, сигареты, продукты питания. Будет дорожать бензин, а значит, и сопутствующие товары. Подорожают и рублевые кредиты.

– Если банки берут дорогие деньги, то выдавать их, конечно, надо под высокие ставки, – говорит источник «Тут і цяпер».

– Сейчас очень плохое время для того, чтобы брать кредит, – соглашается с ним Сергей Чалый.

**ЛЮДМИЛА ЯНЕНКО**

# «СДАСТСЯ»» ЛИ КРЕПОСТЬ БРЕСТСКИМ ВЕЛОСИПЕДИСТАМ

Знаки, запрещающие передвижение на велосипедах, установили в Брестской крепости несколько дней назад. И, как практически любой запрет, это нововведение повлекло за собой волну возмущения со стороны брестчан.



## «МЫ ПРОСТО ПЕРЕМЕЩАЕМСЯ ИЗ ТОЧКИ «А» В ТОЧКУ «Б»

Причем недовольство высказывают не только велосипедисты, но и сочувствующие им пешеходы.

«Я отношусь к этому запрету как к абсурдному. Мне интересно, по какому такому правилу нужно запрещать передвижение на велосипеде по крепости? Если это каким-то образом противоречит моральным устоям, тогда, вероятно, стоит закрыть ресторан «Цитадель», отменить разрешение на сдачу в аренду казарменных помещений. По-моему, «велосипедный» запрет глуп и безоснователен», – негодует Виктория, которая, кстати, любит гулять по крепости пешком.

Велосипедист Дмитрий придерживается такого же мнения: «Брестская крепость – это же огромная территория. Я не понимаю, почему там нельзя перемещаться на велосипеде. Это ведь гораздо быстрее и проще, чем просто катить велосипед пару километров. Каким образом, крутя педали, мы нарушаем спокойствие?! Мы просто перемещаемся из точки «А» в точку «Б». Другое дело, когда на территории, где шли бои и похоронены солдаты (в «Цитадели»), каждые выходные отмечают свадьбы: танцуют, поют песни. Я думаю, не одного меня это возмущает. Почему бы не решить сначала этот вопрос, ведь он гораздо серьезнее?».

## А ВОТ НА ГУЛЯНЬЯ ПОВЛИЯТЬ НЕ МОГУТ

На торжества в ресторане «Цитадель», который находится на территории мемориала, народ пеняет не зря. Здесь действительно, и нередко с особым размахом, празднуют торжественные даты и события. Однако у администрации крепости свой взгляд на это: дескать, ресторан нам не подвластен, с гуляньями на святой земле мы тоже не согласны, но повлиять не можем.

Зато смогли и повлияли на тех, кто приезжает в крепость на велосипедах.

Заместитель директора мемориального комплекса «Брестская крепость-герой» Лариса Бибик уверяет, что в установке запрещающих знаков виноваты… сами велосипедисты. Выяснилось, что катание по территории крепости на велосипедах, а также роликовых коньках, лыжах и т.п. запрещено Правилами посещения мемориала. Однако с ними никто не считался: площадь Церемониалов, дорожки вдоль казарм и другие крепостные территории превратились в велотрек. В какой-то момент нашествие велосипедистов приобрело такие масштабы, что администрация крепости вынуждена была прибегнуть к установке запрещающих знаков. «Сначала мы увещевали, просили, но, как показала практика, этого недостаточно», – говорит Лариса Бибик.

Директор мемориального комплекса Григорий Бысюк объясняет запрет прежде всего мерами безопасности: «Я понимаю, что здорово погонять на площади почти в гектар. Но в том-то и дело, что «погонять»! Мы вежливо просим людей: «Пожалуйста, велосипед в руки – и можете ходить по крепости». Нет же! Они по главной аллее, возле музея, по площади Церемониалов гоняют – там, где ходят группы экскурсантов и посетители, которые пришли пройтись. Люди сюда идут с определенной целью, а не затем, чтобы накручивать километры, смеяться и кричать».

## ЕСТЬ ВОЗМОЖНОСТЬ КОМПРОМИССА?

Совсем отказываться от посетителей-велосипедистов крепость не собирается. У входа в мемориал в первых числах августа для них оборудуют велосипедные парковки.

Брестских активистов движения «За велоБрест!» такой вариант не устраивает. Они считают несправедливым категорический запрет на перемещение по территории крепости на велосипеде. «Устраивать катания на велосипеде в увеселительных

**КСТАТИ**

**Газета «Тут і цяпер” уделяет много внимания проблемам развития велосипедного движения в стране. Совсем недавно мы писали про популяризацию этого вида транспорта в столице («Роварнае шчасце няўхільна ідзе ў Беларусь» http://www.svabodaby.net/by/206/society/1825).**

**ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА**

**Юрий Важник, председатель правления БАЭС (Белорусской ассоциации экспертов и сюрвейеров на транспорте):**

*– Когда мы готовили Концепцию обеспечения городской системы велосипедного движения в г. Минске в 2010 году, то опрашивали разные категории минчан: активных велосипедистов, студентов, просто людей на улице и так далее. В результате оказалось, что желаемое число велосипедов – около 1,3 на семью, или почти 1 млн велосипедов в городе в общем. Планировали рост «велосипедизации» от 2% до 5% в год и удвоение числа поездок на велосипеде к 2013 году, учетверение – к 2015. Примерно так, по нашей оценке, и происходит, поэтому в Минске должно быть до 400 000 велосипедов.*

целях, в отрыве от целевого знакомства с культурно-историческим наследием крепости, неразумно. Также присоединяемся к просьбе посетителей мемориала о неторопливом, не создающем опасности и не привлекающем внимания перемещении велосипедистов по территории крепости. Просим руководство мемориального комплекса «Брестская крепость-герой» разрешить перемещение на велосипеде по территории с целью знакомства с культурно-историческим наследием Бреста. Заранее согласны на выделенные маршруты и дорожки для велосипедистов», – говорится в коллективном обращении, под которым велосипедисты собирают подписи.

Администрация мемориального комплекса «сдавать» крепость велосипедистам пока не намерена. Однако Лариса Бибик предложила любителям велосипедных прогулок освоить другой маршрут – к Форту № 5, расположенному в четырех километрах от самой крепости. По ее словам, туда ведет отличная и, главное, свободная от машин и скоплений людей дорога, на которой велосипедисты смогут «отвести душу» и вдоволь накататься.

**СВЕТЛАНА ДИВУНОК**

# МЭР ВІЛЬНІ: "ГОРАДУ НЕ ПАТРЭБНЫ ТАКІЯ СВЯТЫ"

## Напрыканцы ліпеня ў Вільні праходзіў фестываль «BalticPride-2013», арганізаваны Лігай геяў Літвы.

Фестываль быў зладжаны для ЛГБТ-грамадскасці з краін Балтыі і ўсёй Еўропы, а таксама для тых, хто іх падтрымлівае. Цягам тыдня ў Вільні праходзілі розныя мерапрыемствы, звязаныя з ЛГБТ-тэматыкай: семінары, літаратурныя чытанні, выставы, якія расказвалі пра рух ЛГБТ у Літве, фотавыставы, кінафестываль. Кульмінацыяй фестывалю стала шэсце «За роўнасць», якое адбылося 27 ліпеня па цэнтральным праспекце літоўскай сталіцы.

Калі казаць пра выставы ды літаратурныя чытанні, то яны вялікага ажыятажу ў грамадзян не выклікалі. У адрозненне ад шэсця прадстаўнікоў ЛГБТ – аб ім загаварылі яшчэ за паўгода да падзеі.

Нагода была. У 2010 годзе ў Вільні праходзіла аналагічнае шэсце. Улады далі дазвол на яго правядзенне, але ўздоўж ракі Нярыс, па досыць бязлюднай вуліцы, дзе паліцыя мела магчымасць забяспечыць ахову ўдзельнікам шэсця. Прычына непакоіцца была: на прыкладна 100 удзельнікаў прыпадала каля 1000 праціўнікаў шэсця. І настрой у іх быў баявы.

Сёлета, калі супольнасць ЛГБТ Літвы адзначае 20 гадоў сваёй афіцыйнай дзейнасці, Ліга геяў Літвы падала заяўку на правядзенне шэсця «За роўнасць» на галоўнай вуліцы Вільні – праспекце Гедыміна, ад плошчы Кудзіркі да Лукішскай. Адміністрацыя самакіравання адмовіла ў правядзенні шэсця ў цэнтры горада. У адказ Ліга геяў Літвы звярнулася ў суд і выйграла справу: суд адзначыў, што муніцыпалітэт указвае іншае месца для правядзення шэсця беспадстаўна, і абавязаў выдаць дазвол на шэсце па праспекце Гедыміна, дзе часта адбываюцца іншыя шэсці і дэманстрацыі.

Арганізатары адзначылі, што шэсце, якое праводзяць у многіх краінах Захаду, мае на мэце звярнуць увагу на дыскрымінацыю сексуальных меншасцей і няроўнасць. Аднак у Літве многія крытыкі называюць такія шэсці «прапагандай гомасексуалізму».

Тым не менш, насуперак жаданню многіх грамадзян і адміністрацыі горада, шэсце прайшло ў Вільні 27 ліпеня. У ім узялі ўдзел каля 500 чалавек. Назіральнікаў і праціўнікаў шэсця, па данных паліцыі, было каля 700 чалавек.

– Вось яшчэ, глядзець на іх голыя задніцы! Трэба было пазакрываць усе вокны і нікому не хадзіць глядзець – і няхай бы сабе красаваліся адно перад адным, – адрэагавала віленчанка сталага ўзросту на пытанне аб тым, ці бачыла яна шэсце.



*Ці стануць гей-парады звычайнымі для літоўскай сталіцы?* *Фота С. ШАПАВАЛАВА*

Пані памылялася: «голых задніц» на парадзе ЛГБТ не было. Калі непрыстойнасці і мелі месца, то з боку праціўнікаў шэсця, якія выкрыквалі «Пі..ры!» і паказвалі непрыстойныя знакі. Былі і тыя, хто выказваў сваю нязгоду спакойна, без нецэнзурнай лексікі. А яшчэ людзі фатаграфавалі. Увогуле, складвалася ўражанне, што большасць назіральнікаў прыйшлі не дзеля таго, кааб падтрымаць ці асудзіць шэсце, а каб зрабіць кадр на памяць.

А здымаць было што. Адміністрацыя горада запатрабавала ад службаў правапарадку забяспечыць бяспеку ўдзельнікаў шэсця. Мерапрыемства ахоўвалася ва ўзмоцненым рэжыме: паліцэйскія праз кожны метр, пажарная машына, паліцэйскія аўтамабілі, конная паліцыя і для паўнаты карціны – верталёт над тым месцам, дзе збіралася калона.

Літоўскія палітыкі па-рознаму аднесліся да шэсця ЛГБТ-супольнасці. Так, **міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус** падтрымаў мерапрыемства, падкрэсліўшы, што яно істотнае не толькі ў галіне правоў чалавека, але і сведчыць аб сталасці літоўскага грамадства.

А вось парламентарый член партыі «Парадак і справядлівасць» **Пятрас Гражуліс** праявіў залішнюю актыўнасць яшчэ да пачатку шэсця і быў затрыманы за непадпарадкаванне паліцыі. Праўда, яго хутка выпусцілі – палітык мае дэпутацкую недатыкальнасць.

Падчас мерапрыемства паліцыя затрымала 28 чалавек.

**Уладзімір Сіманько, кіраўнік Лігі геяў Літвы** і арганізатар шэсця, застаўся задаволены мерапрыемствам. *«Мы задумваемся над тым, кааб часцей праводзіць такія парады – гораду патрэбны такія святы»*, – заявіў Уладзімір Сіманько.

**Мэр Вільні Артурас Зуокас** з гэтым не пагадзіўся.

*- Такія святы гораду дакладна больш не патрэбны*, – заявіў мэр у панядзелак агенцтву BNS. *- Мяркую, суботнія падзеі ў чарговы раз паказалі, што такія мерапрыемствы не маюць нічога агульнага з заахвочваннем талерантнасці. Хутчэй, яно мела на мэце прапаганду пэўных каштоўнасцей і пэўнага ладу жыцця.*

**ЛАРЫСА ШАПАВАЛАВА**

* ЛГБТ – абрэвіятура для абазначэння супольнасці лесбіянак, геяў, бісексуалаў і транссексуалаў.

# ЦІ ТРЭБА НАМ РЭФАРМАВАЦЬ ЦАРКВУ?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 2*

**УЛАДЗІМІР АРЛОЎ, ПІСЬМЕННІК:**

## “БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА ПАВІННА СТАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАЙ”

– Безумоўна, беларуская праваслаўная царква мае патрэбу ў рэфармаванні. Але я, у адрозненне ад прэзідэнта, не ўзяў бы на сябе адказнасць прапанаваць адразу цэлы комплекс рэформ. Таму засяроджуся на двух аспектах.

Першы. Наша праваслаўная царква павінна быць незалежнай ад Маскоўскага патрыярхату, бо яе цяперашні стан нагадвае філіял РПЦ – усё вырашаецца ў Маскве.

Другі. Нягледзячы на тое, што ў апошні час гавораць пра з’яўленне ў праваслаўных храмах літаратуры на роднай мове і беларускай мовы ў набажэнствах, гэтыя праявы беларусізацыі нашай царквы днём з агнём не адшукаеш. Нядаўна я быў на радзіме, наведаў Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, дзе ў царкоўнай лаўцы сярод соцень кніг і брашур не знайшоў ніводнай на беларускай мове. Хоць прадстаўнік праваслаўнай царквы гаварыў, выступаючы нядаўна на 6-м з’ездзе беларусаў свету, што ўжо ёсць праваслаўны беларускі малітоўнік і выдадзена святое пісьмо. Я не ведаю, пра якія наклады ідзе гаворка і дзе яны захоўваюцца. Для таго каб пераканацца ў справядлівасці маіх слоў, зайдзіце ў любую праваслаўную царкву. На жаль, храмы майго роднага Полацка і па мове набажэнства, і па літаратуры, якая прапануўваецца вернікам, нічым не адрозніваюцца ад храмаў у Разані ці ў Тамбове.

**АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ, ГІСТОРЫК:**

## “ЦАРКОЎНА-СЛАВЯНСКУЮ МОВУ ПЕРАКЛАСЦІ АДЭКВАТНА НЕМАГЧЫМА”

– Праваслаўная царква павінна рэфармавацца, як рэфармуюцца святая каталіцкая царква і іншыя цэрквы, захоўваючы сваё аблічча, сваю адметнасць, артадаксальнасць. Рускай праваслаўнай царкве трэба было ўзяць прыклад са сваіх братоў з поўдня Еўропы і паставіць у храмах звычайныя лаўкі, як у грэка- і рымска-каталіцкіх цэрквах. Што датычыць службы, то тут я з Аляксандрам Рыгоравічам не згаджуся. Літургія доўжыцца сама больш паўтары гадзіны. І большасць вернікаў прыходзіць у царкву, як правіла, у нядзелю. Сказана: “Ныне всякое житейское отложим попечение...”. Адкласці на пару гадзін у нядзелю жыццёвыя клопаты, я думаю, няцяжка для хрысціяніна. Тым больш і ў пратэстантаў службы некароткія. І нават рымска-каталіцкая служба не нашмат карацейшая за праваслаўную. Цяпер пра мову. Праваслаўныя хрысціяне ў абсалютнай большасці сапраўды не разумеюць царкоўнаславянскую мову і не могуць усёй царквой разам са святаром спяваць літургічныя тэксты, як гэта робяць грэка-католікі ці рыма-католікі. Вядома, гэта кепска. Тут або бацюшкі павінны вучыць, або трэба пераходзіць на зразумелую мову. Але я баюся, што РПЦ зробіць нам вялікі падарунак у выглядзе расійскай мовы.. Тут неабходна добра падумаць: ці трэба пры цяперашняй палітыцы ўводзіць агульназразумелую мову? Сам жа я вельмі люблю царкоўнаславянскую мову. Лепш чым па-царкоўнаславянску іншы раз і не скажаш. Перакладзіце на даступную мову знакаміты выраз “Довлеет дневи злоба его”. Альбо такі абарот: “Иже Херувимы тайно образующе и животворящей Троице трисвятую песнь припевающе”. Ніколі адэкватна не перакладзеце.



*Царква патрабуе не толькі знешняга рамонту?*

**ТАЦЦЯНА КАРПІЛОВІЧ, ПРАВАСЛАЎНАЯ ВЕРНІЦА:**

## “ПЕРАД БОГАМ ТРЭБА СТАЯЦЬ”

– У душы кожнага веруючага чалавека на першым месцы павінен быць Бог, а не рытуалы. Бо свечкі, паклоны, адзенне, у якім ты заходзіш у храм, – гэта не галоўнае. Сапраўдны святар заўсёды скажа: “Лепш зайдзі, калі ёсць такая патрэба, нават у штанах і без хусткі”. Бог чакае твайго звароту да сябе, і лепш за ўсё рабіць гэта ў храме. Я лічу, што ў малітве перад Богам трэба стаяць. Кожны можа вытрымаць 15 хвілін ці паўгадзіны стаяння. Лавы ў царкве ёсць, і яны прызначаны для тых, каму цяжка.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 01.08.13
Тыраж 299 экзэмпляраў